Газета заснавана ў 1931 годзе. Адноўлена ў 1999 годзе.



# Голас Пружаны

№ 6 (22)
Чацвер, 16 лютага 2001 года

Штотыднёвая незалежная грамадска-палітычная газета

Кошт свабодны



## Чудо встречи

СВЯЩЕННИК АНДРЕЙ КОРСАНЮК

Сретение. Последний из зимних праздников. Последний праздник перед Великим Постом. Рождество - Крещение - Сретение. Три раза зимними вечерами Церковь напоминала о том, как бог приходил к людям. Затем, весенними днями поста, начнётся уже путь наших порывов к Богу, и шаг за шагом, неделю за неделей мы будем пытаться вытянуть себя из распутицы наших грехов.

А пока - три действия, три шага, которые сначала сделал к нам Тот, Кто дал начало нашей Вселенной, но затем вдруг Сам вошёл внутрь нашего мира и нашей жизни. В Рождестве Он стал человеком. В Крещении принял на Себя тяжесть наших, а не Своих грехов. В Сретении Он просто вручил Себя в руки людей.

"Сретение" на церковнославянском значит "встреча". На сороковой день после рождения Младенца Мария приносит Своего Первенца в иерусалимский храм, чтобы священник посвятил Его Богу. Сын Марии в Своих руках хранит всю Вселенную - но в этот день Его Самого несёт на руках священник. Бога к человеку несёт человек.

И само Сретение - это встреча человека и Бога. Старый, очень старый иерусалимский священник Симеон всю жизнь ждал встречи с Богом. Даже сама старость была дана ему как наказание за то, что когда-то он потерял веру. И в ту минуту давних сомнений ему было сказано: "Ты не умрёшь, пока сам не увидишь исполнения пророчеств". И вот этот день пришёл. И что же - разверзлись небеса, и в ликующем хоре Ангелов сошёл к Симеону Вышний Свет? Огненная ли колесница, что являлась Илии и Иезекиилю, промчалась перед Симеоном? Облако ли с гремящим гласом и блистаниями молний, из которого некогда Моисей услышал десять заповедей, осияло старца? Нет. Пришла молоденькая мать, и на руках у неё был месячный малыш. Но тот сердечный трепет, который был знаком и Моисею, и Илие, и Иезекиилю, пронзил вдруг Симеона, и в его сердце сказались давно готовые слова: "Ныне отпущаеши раба Твоего, Владыка...". "Теперь ты отпускаешь меня, отпускаешь уйти дорогой отцов, разрешаешь пройти через дверь смерти, и эти врата уже не страшны для меня - ибо я видел Спасение моё и Твоих людей".

Сретение. Бог среди людей. И люди, которых приход Бога не разъединил, а сблизил друг с другом. И вся христианская этика и аскетика - не более, чем искусство не потерять эту дарованную нам близость с Богом и с людьми.

***Духовенство церквей Пружанского благочиния поздравляет всех читателей с наступающим праздником Сретения Господня, призывая благословление Божие на добрые дела и помощь Всевышнего на пути спасения.***



## Выставка работ Светланы Макарук

В музее «Пружанский палацык» открыта выставка молодой художницы Светланы Макарук. Светлана Владимировна Макарук родилась 8 марта 1974 года. Закончила Кобринское художественное училище и Гродненский университет, отделение искусств. Сейчас работает в Пружанском центре творчества детей и молодёжи.

Первая выставка - это всегда огромное волнение для художника. Первое открытие души для широкой публики. Каким оно будет?

Приходите в музей и посмотрите на мир глазами художницы Светланы Макарук.




## Любой каприз за ваш счет

I.Юрко

Вельмі зручны спосаб распаўсюджання сваёй друкаванай прадукцыі вынайшаў Дзяржаўны падатковы камітэт Рэспублікі Беларусь і Беларускі прафсаюз работнікаў падатковых і іншых фінансавых органаў.

Створанае імі УП "Светоч" наладзіла выданне часопіса "Вестник Государственного налогового комитета Республики Беларусь". Цяпер усе падведамственныя структуры ДПК і адпаведнага прафсаюза павінны аказваць садзеянне "Светачу" ў распаўсюджанні гэтага выдання сярод падаткаплацельшчыкаў. Кошт выдання, не асабліва складанага па дызайну на паўгоддзе складае 67392 рублі. Паколькі падаткаплацельшчыкаў ахвочых самастойна падпісацца на новы журнал назбіралася няшмат, ў разгортванне падпіснай кампаніі прыйшлося падключыцца і мясцовым ДПК. Пасля неабходных кансультацый і гутарак з падаткаплацельшчыкамі справа зрушылася. Сапраўды, хто адкажа абаяльнаму інспектару паважанай структуры абысці увагай новае выданне.

Мяркуючы па 20000-му накладу «Вестника...» справа "Светачу" пайшла ў гару. Нават па нашых (дылетанскіх) падліках сума за падпіску ў 1123200000 рублёў даволі ўнушальная. Калі ад яе аднясць кошт выдавецкіх затрат (папера, друк, заробкі (умоўна дзесяці супрацоўнікаў па 100000 руб.) і кошт рассылкі), то яшчэ прыкладна застанецца сумма каля 1066800000 руб., што па курсу долара (1250 руб.=1 USA) можа складаць 853440 долараў ЗША. Калі справы пайдуць так і ў другім паўгоддзі, то хутка можна будзе павіншаваць УП-"Светач" як новага доляравага мільянера.

Адрес редакции: 220030, г. Минск, ул. Я. Купалы, 17/30. Тел. (017) 236-63-43, 222-38-48; тел./факс (017) 236-63-41
УП «Светоч» (резидент РБ)
Р/с 3012209090013 в Ленинском отд. ОАО «Белбизнесбанк» г. Минска, код 763, УНН 100076886

Плательщик ______________________

СЧЕТ-ФАКТУРА № б/н
От "09" октября 2000 г.
Счет-фактура действительна до 01.01.2001

| Наименование | Кол-во | | |
|---|---|---|---|
| За подписку на журнал «Вестник Государственного налогового комитета Республики Беларусь» | I полугодие 2001 года (24 номера) | Цена без НДС | 2340 |
| | | Сумма без НДС | 56160 |
| | | Сумма НДС (20%) | 11232 |
| | | Всего с НДС | 67392 |

Сумма к оплате: ***Шестьдесят семь тысяч триста девяносто два рубля.***

Цена согласно прейскуранту № 5 от "09" октября 2000 г.

Главный редактор ________

**Обязательно укажите в платежном поручении (в назначении платежа) свой ПОЛНЫЙ почтовый адрес и телефон!**

## "Берасцейская грамадзянская унія–2001" за вольныя і справядлівыя выбары

У Брэсце па ініцыятыве грамадскіх дзеячаў і грамадзянаў Берасцейшчыны была створаная кааліцыя "Берасцейская Грамадзянская унія-2001". Мэта кааліцыі - стварыць грамадзкія гарантыі правядзеньня свабодных і справядлівых прэзыдэнцкіх выбараў. Удзельнікі сходу прынялі зварот да грамадзянаў Беларусі, партыяў, грамадзкіх аб'яднанняў з заклікам далучацца да кааліцыі. У заяве выстаўляюцца патрабаванні стварыць умовы для правядзення свабодных выбараў: спыніць кампанію пераследу палітычных апанентаў у СМІ, стварыць роўныя ўмовы для кандыдатаў і г. д. Удзельнікі сходу выказалі рашучасць у ажыццяўленні пастаўленай перад сабой мэты: "Мы абяцаем, што будзем паведамляць аб усіх фактах парушэння заканадаўства аб выбарах, а пры неабходнасці - патрабаваць крымінальнага суда над вінаватымі." Дакумент адкрыты для падпісання ўсімі грамадзянамі Беларусі, і берасцейсцы спадзяюцца, што кааліцыя прыме агульнанацыянальны маштаб.



## НАВІНЫ

Аляксандр Чыгір, Васіль Быкаў і Сяргей Каляда затрыманы па падазрэнню ва ўчыненні крадзяжу маёмасці. паведаміў Прэс-цэнтр МУС.

МЗС падтрымала прапанову ТБМ выкарыстаць беларускую мову ў афармленні тавараў імпартуемых у краіну.

З пачатку 2001года запазычаннасць па зарплаце на Гродзеншчыне павялічылася на 416 мільёнаў.

Грамадскія арганізацыі Рэчыцы пратэстуюць супраць змянення гістарычнага герба горада.

Дзяржкамітэт пагранічных войскаў абвясціў збор ахвяраванняў на пабудову ў Гродне і Брэсце.

У Беларусі ўстаноўлены дадатковыя плацяжы, якія будуць збірацца ў 2001 годзе ў валюце

Беларускія авіятары выказалі недавер сваім правсаюзным "Босам" за рашенне не браць удзел у ў акцыі пратэсту 14 лютагаю.

Узровень захворванняў на грып у гродне змяншаецца, на гепатыт павялічваецца.

За спробу дачы хабару затрыманы вядомы ў Брэсце крымінальны аўтарытет у сферы нелегальнага аўтабізнесу.

Гродзенская арганізацыя " маладой грамады" абвясціла конкурс на лепшы прыжыццёвы помнік Аляксандру Лукашэнку.

28 лютага ў Беларусі пройдзе забастоўка індывідуальных прадпрымальнікаў.

Вялікабрытанія адмовілася выдаць Беларусі былую старшыню праўлення нацбанка Т. Віннікаву.

Зацверджаны склад дэлегацыі вярхоўнага савета, якая накіруецца ў Вену на пасяджэнне пастаяннага камітэта парламенскай асамблеі АБСЕ.

Міхаіл Чыгір і яго жонка лічаць затрыманне іх сына спробай дыскрэдытаваць аднаго з магчымых кандыдатаў на прэзідэнскіх выбарах.

На працягу тыдня на брэстчыне знойдзены каля 80 боепрыпасаў часоў вайны і 25 кг патронаў.

Эпідэмія грыпу 12 лютага абвешчана ў другім з кантрольных гарадоў Брэскай вобласці - Пінску.

Толькі ў Беларусі і Грудзіі летась было дасягнута значнае павелічэнне аб'ёмаў жыллёвага будаўніцтва.

Суд задаволіў чатыры іскі гамяльчан да мясцовага філіяла "Белкамбанка" на суму каля 10 тысяч долараў ЗША.

БелаПАН



НА КОНСУЛЬТАЦИИ У ПСИХОЛОГА

# НЕ РАССКАЗЫВАЙ ПАПЕ!

Марина Шевченко

С такой просьбой обращаются иногда дети к своим мамам, повергая их тем самым в растерянность. Они вынуждены каждый раз срочно искать ответ, полагаясь на свои жизненные принципы и интуицию. Как же правильно поступить в данной ситуации? Давайте разберёмся не спеша.

«Маленькие тайны» между детьми и мамой (или папой) сближают их. Также дают время возможность ребятам исправить ошибки. В то же время ситуации типа: «Не говори папе!» могут легко создать атмосферу лжи и двуличия. Где же граница, которая позволяет или не позволяет маме выполнить эту просьбу ребёнка?

Главной «таможней», дающей «добро», можно считать:

- *незначительность поступка,*
- *единство действий и взглядов родителей,*
- *возможный воспитательный эффект маленькой тайны,*
- *искреннее желание ребёнка исправить ошибку, сохранив престиж.*

В принципиальных вопросах такое покрывательство не только не желательно, но даже вредно. Хуже всего, когда родитель, таким образом, пытается завоевать любовь ребёнка.

Если родители доверяют друг другу, полагаются один на другого и умеют хранить тайну, тогда эти маленькие секреты будут осуществляться только в глазах ребёнка. Не будет ли это предательством? Это также зависит от согласия между родителями и от того, насколько они ценят личность своего малыша.

## ФЭСТЫВАЛЬ "МАГУТНЫ БОЖА" ЗАПРАШАЕ ДА ЎДЗЕЛУ

Аргкамітэт міжнароднага фэстывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа" пачаў прымаць заяўкі на ўдзел у чарговым аглядзе. Паказаць свой талент у маючым адбыцца ўжо ў дзявяты раз конкурсе можа любы спявак незалежна ад канфэсійнай прыналежнасці. Запрашаюцца прафэсійныя, аматарскія і парафіяльныя хоры, дзіцячыя і маладзёвыя гурты, інструмэнтальныя і вакальныя ансамблі, а таксама асобныя выканаўцы. Заяўкі на ўдзел у фэстывалі прымаюцца да 30 красавіка, а сам ён пройдзе ў Магілёве з 11 да 16 ліпеня. Журы конкурсу традыцыйна ўзначальвае выбітны дырыжор Віктар Роўда.



## Курсы валют у банках г.Пружаны:

| | купля | продаж |
|---|---|---|
| *БелБізнесБанк* | | |
| $ ЗША | 1215 | 1240 |
| DM | 550 | 575 |
| RUR | 39 | 43 |
| *Аграпрамбанк* | | |
| $ ЗША | 1210 | 1235 |
| DM | 565 | 580 |
| RUR | 41 | 43 |
| *Беларусбанк* | | |
| $ ЗША | 1210 | 1245 |
| DM | 540 | 575 |
| RUR | 38 | 43 |

## Кошт паліва на гарадскіх АЗС:

| | |
|---|---|
| АЗС "Пружаны" | |
| Аі-95 | 656 |
| Аі-92 | няма |
| Аі-76 | 450 |
| ДП | 400(з)/388 |
| АЗС «Салют» | |
| Аі-95 | няма |
| Аі-92 | 580 |
| Аі-76 | 450 |
| ДП | 408 |



ТЭМУ ПРАПАНУЕ ЧЫТАЧ



# "САМЫЯ ЗАЦЮКАНЫЯ"

Пішу гэты артыкул пад уздзеяннем сёняшніх жыццёвых калізій. У нас многа апошнім часам пачалі ў непрыглядным выглядзе паказваць прадстаўнікоў такой прафесіі, як настаўнікі. І розныя паскудствы ім прыпісваюць з нагоды, як кажуць, і без нагоды. І "зайцамі" яны ездзяць, і тройкі ставяць за ціхія паводзіны на ўроку "крутым" вучням і г. д., і г.д. Калі настаўнік праехаў "зайцом" -катастрофа, усяленская трагедыя! А калі яму на тры тыдні затрымліваюць зарплату, і можа таму ён і едзе тым "зайцом", то гэта нармальная з'ява і ніхто не падымае тамідар.

Мяне заўсёды здзіўляла двайная мараль нашага грамадства. Калі настаўнік абмануў дзяржаву на 70 рублёў-гвалт, як яго абманваюць нашыя "начальнікі" вагонамі і цягнікамі - ўсе маўчок. Калі супрацоўнік ДАІ, ці мытнік, ці нават зубны тэхнік бярэ хабар - маўчок, калі з'явіўся хоць адзін выкладчык інстытута, які ўзяў хабар - адразу істэрыя і крык. Ствараюць камісіі перад уступнымі экзаменамі, шматлікія праверкі, называюць тэлефоны па якіх "стукачы" могуць пазваніць і г.д. Калі малалетак у якасці сэкставару выкарыстоўваюць таксісты і шаферы - "дальнабойшчыкі" нармальная з'ява, а калі ў гэтым, не дай бог заўважаць настаўніка - ўсяленскі патоп, содом і гаморра!

Я не прапаную зрабіць нормай сэкуальныя дамагальніцтвы ў школе, той жа хабар ў студэнскіх аўдыторыях, як і супраць усіх "карозій" ў педагагічным асяроддзі, але ж... чаму наша грамадства выставіла "казлом адлупцоўвання" аднаго настаўніка?

А што ж, у бальшавікоў, якія былі і ёсць пры ўладзе гэта нармальная з'ява. Яны яшчэ памятаюць свае "залатыя" часы, калі просты люд будаваў турксібы і беламорканалы за тры міскі пахлёбкі і 250 грамаў хлеба на дзень, працавалі да сёмага поту за "палачкі" ў калгасах. Ды і цяпер, тую дапамогу на хлеб і малако, што атрымлівае паспаліты народ Беларусі, хіба можна назваць зарплатай? А з таго ж настаўніка, за тое "пасобие", яшчэ некаторыя асобы спрабуюць штосці патрабаваць. Хацеўбы спытаць: Ці ведаюць гэтыя асобы ў якіх умовах жыве той настаўнік? Ці ведаюць яны, як ён у пацёмках, пакалена ў снезе плянецца на работу ў тую ж Хараўскую, Мураўскую, Шаняўскую, Гарадзечанскую і іншыя аддаленыя школы. Нават даярку і цялятніцу ў наш час возяць на калгаснай машыне, а пра настаўніка нікому і галава небаліць. Міліцыянеру презд на ўсіх відах транспарту бясплатны, - ён выконвае свае службовыя абавязкі. А настаўнік, едучы не на банкет, павінен чамусці плаціць, хоць зарплата яго ў тры разы меньшая. Чаму б і настаўніку, які карыстаецца транспартам і ездзіць той жа злектрычкай, ці аўтобусам не выпісаць у РАА праяздныя дакументы? Там жа камлектуюць школы кадрамі і ўжо ў канцы жніўня, перад кожным навучальным годам ведаюць, які настаўнік будзе ездзіць на працу на працягу ўсяго года. Або, чаму не ўвесці настаўнікам таксама форму, як да было рэвалюцыі, або грашовую кампенсацыю за яе. Бо цяпер маладому настаўніку без катэгорыі і стажу працы і за тры месяцы не зарабіць на звычайныя боты, не гаворачы пра ўвесь астатні гардэроб. А ці хвалюе нашых кіраўнікоў РАА, прывязлі таму настаўніку газавы балон праз дзень пасля заказу, ці праз месяц, пры яго загружанасці работай ды дыфетыце часу? А ці ведаюць кіраўнікі раёну, колькі кватэр выдзелілі настаўнікам за апошнія 15 год? А ці можна памыцца таму настаўніку, хаця б раз у нядзелю ў той лазні, ці яна не працуе ўжо год, як у Лінова, напрыклад? А ці ёсць у вёсцы, хаця б на цэнтральнай сядзібе калгаса цырульня, пральня, ці трэба паўтары-дзве гадзіны ехаць ў райцэнтр з-за дробязі, як з тых Гален, Кавалёў, Муравы і іншых вёсак? Ці ёсць бібліятэка ў вёсцы, дзе жыве настаўнік, і што ў той бібліятэцы?

Гэтыя праблемы, якіх у простых настаўнікаў і наогул ўсіх простых людзей процьма, усё жыццё, можна сказаць у нас складаецца з суцэльных праблем, не хвалюють нашых босаў з "Белых Дамоў". Над імі , як гаворыцца, "не каплет".

...А вынікі газетных публікацый такога кшталту, што я прыводзіў ў пачатку свайго артыкула не прамінулі з'явіцца.

Адна з маладых настаўніц нядаўна, літэральна заліваючыся слязьмі, расказала мне гісторыю... Адна з так званых "мам" вучня малодшых класаў прыйшла ў школу з разборкай, чаго настаўніца паставіла яе "золатку" двойку. Не застаўшы кіраўніцтва школы (заняткі ўжо скончыліся), так разверашчалася ў прысутнасці вучняў, на гэтую настаўніцу... Нікай элементарнай культуры, такту, субардынацыі...

Адзін настаўнік скардзіўся мне, што наогул бацька вучня, які знаходзіўся "пад хмяльком", сустрэўшы яго на вясковаў вуліцы надаваў настаўніку аплявух за тое, што ён чуць мацней, чым гэтаму вучню хацелася, дакрануўся да пляча гэтага шалапута, каб заставіць яго хутчэй рухацца, выконваючы спешнае даручэнне. А колькі канфліктаў узнікае ў настаўнікаў у дачыненні з самымі вучнямі, і асабліва са старшакласнікамі-гэтымі бамбізамі 15-16 год. якія ўжо на галаву вышэй і ў паўтары раза здаравей тых настаўнікаў, асабліва гэта датычыцца гарадскіх школ. Яны запроста могуць зняважыць настаўніка, паслаць яго - самі ведаеце куды, прыгразіць і калі ўлічыць, што ў класе іх 25-30, то атрымліваецца, што амаль кожны дзень на працягу месяца, у кожным класе, як мінімум узнікае адзін канфлікт, таму хоць аднаму вучню, а "мача", як гаворыцца, стукне. Вось і атрымліваецца, што не жыццё ў настаўніка, а суцэльны стрэс... А хто з іх пахваліцца. што адпачываў дзе-небудзь у апошні час на курорце, у доме адпачынку?

Гэта ў наш час вельмі вялікая раскоша для настаўніка. Для настаўніка лічыцца "курортам" папрацаваць у летніку, хаця там быццё таксама не курорт, і там хапае і стрэсаў, і канфліктаў, і спрэчак...

Вяртаючыся да ўсіх гэтых варункаў, да разборак з настаўнікамі, хацелася б спытаць усё грамадства: як вам гэта падабаецца? Што ў нас за краіна такая? Як настаўнікам ратавацца ад такіх разборак? Як яму бараніць свой гонар і годнасць і не трапіць за краты? Можа кіраўнікі РАА дадуць адказ? Што, і настаўніку верашчыць на тую маці-тэхнічку з магазіна, як яна верашчыць на настаўніцу, забыўшыся пра культуру, такт, этыку? Ці ўвесці курсы "каратэ" і "самба" у педуніверсітэтах, каб настаўнікі маглі, пры выпадку, даць здачы бацькам-трактарыстам, у якіх рукі чэшуцца пасля п'янкі? Ці можа падбіраць ў настаўнікі кантангент, як у Скотланд'ярд, з пудовымі кулакамі і ростам пад два метры? Ці як у адным сюжэце з "Ералаша" купляць настаўнікам пісталеты? Ці выстаўляць супрацоўніка АМАПа на ўваходзе ў кожную школу?

А можа на пытанні закранутыя ў гэтым артыкуле адкажа лідэр нашага, так званага прафсаюза? Можа хоць раз нашы прафсаюзы арганізуюць нармальную акцыю педработнікаў, каб абараніць іх інтарэсы. Ці яны толькі звароты ў адміністрацыю прэзідэнта умеюць пісаць? Дык гэтыя звароты дапамогуць настаўнікам, як хваробе кашаль. Для нашых "мілошавічаў" як і для іх югаслаўскіх калег, патрэбныя больш эфектыўныя сродкі...

Вельмі многа пачалі гаварыць у нас апошнія гады пра правы дзіцяці, забываючы, што ў таго дзіцяці ёсць і абавязкі. А яны патрабуюць, каб дзіця добра вучылася, паважала настаўніка, выконвала загады работнікаў школы, настаўнікаў. А ў настаўніка якія-небудзь правы ёсць? Ці толькі ў яго незлічоныя абавязкі, пачынаючы з выбівання сродкаў з бацькоў на рамонт школы, што ніякімі статутамі не прадугледжана, і, што на маю думку, варта ўвагі пракуратуры. А праполка калгасных дзялак? Ды яшчэ многія іншыя дабравольна-прымусовыя латэрэі, паборы?

Настаўнікі таксама ўжо зразумелі, што працуй ты хоць трэсні ў школе, а ніхто табе бронзавы бюст на радзіме не паставіць, і нават медалькі "Ветэран працы" не дасць для адчапнога пасля выхаду на пенсію, і тым больш не вырашыць за цябе ўсе надзёныя праблемы, аб якіх тут згадвалася. А вельмі цяжка быць альтруістам (бескрысным - заўв. рэд), калі ў цябе дома цячэ дах, няма нават халоднай вады, не гаворачы пра гарачую, няма таго ж газавага балону і г.д.

Які небудзь артадокс са старэйшага пакалення настаўнікаў, які спіць і трызніць аб Сталінскім парадку адкажа, што і ў іх было праблем не меньш. Але ў іх было іншае, у іх была надзея на лепшае будучае, а ў нас яе няма, нама нават агеньчыка-светлячка ў канцы тунэля. Ды і тунэль гэты, здаецца, вядзе ў тупік.

Нас ўжо на маёй памяці дзяржава "аб'ягорвала" дзесяткі разоў, то з укладамі, то з чэкамі..., то з халадзільнікам і тэлевізарам кожнаму пенсіянеру ад так званага "ўсенароднаабранага"... Так што прабачайце начальнікі, мы ўжо вам не верым.

Адна настаўніца ў роспачы мне сказала: "За якіясці капейкі працуеш ў гэтаў школе да пяці гадзін вечара і кожная тэхнічка цябе яшчэ прыйдзе і абганіць". А было ж такое, што настаўніка за 20 крокаў віталі, шапку здымаючы. Што, не тыя настаўнікі пайшлі? Не, настаўнікі, як раз у гэтым меньш вінаватыя. Настаўніцы (бо мужчын-настаўнікаў ў школе і ў лепшыя часы было мала) якраз у асноўнай свайёй масе добрыя, інтэлегентныя, высакародныя, кампетэнтныя, чулыя людзі. Але бачачы адносіны да іх дзяржавы, бацькоў, вучняў, пачынаюць плаціць ім той жа манетай. "Быццё вызначае свядомасць"... Бо як аукнецца, так і адклікнецца... Эфект бумерангу. Яшчэ і не тое будзе. Не трэба быць вялікім празорцам, каб намаляваць будучыню здэмаралізаванага грамадства, калі вырастуць выхаванцы настаўніка-жабрака. Гэты "пралетарый разумовай працы" цяпер так-сяк вучыць і выхоўвае па інерцыі. Так што чакайце, дачакаецеся...Наўрат ці дапаможа тады турма, ці царква.

P.S.

*Слухаючы размовы нашых грамадзян і бачачы іх безрадаснае жыццё-быццё, я ведаю, што і ў прадстаўнікоў іншых прафесій і сацыяльных слаёў ёсць процьма праблем. Таму прапаную ўвесці пастаянную рубрыку: "Самыя зацюканыя"..., ці можа нават конкурс правесці на лепшы артыкул на гэтую тэму. Так што, спадарства, паспавядайцеся, зніміце стрэс. Ці слабо? Баіцеся ўсё яшчэ босаў з "Белага Дома?" Ну тады цярпіце і надалей. Схадзіце памаліцеся, пастаўце свечачку. Можа "опій для народу" вам дапаможа. Але опій натое і опій, што ён заставляе забыцца на час, і жыцё не змяняе, яно застаецца з ўсім сваім паскудствам...*

*Б.К.*

# АДКУЛЬ У ВЁСКІ ІМЯ

І. Машкала


Сядзіба Крашэўскіх

НАЗВЫ ПАСЯЛЕННЯЎ і рэк, урочышчаў і вуліц здаўна прыцягвалі да сябе ўвагу людзей, якія ў сваю чаргу не толькі давалі гэтыя назвы, але і стараліся растлумачыць іх сэнс, паходжанне. І ў першую чаргу гэта датычыць тых, якія засталіся ў спадчыну ад папярэдніх часоў і пакаленняў.

У навуковай літаратуры, а тым больш у паўсядзённым нашым жыцці, мы часта сустракаемся з няправільным тлумачэннем назваў. Галоўная і частая памылка ўзнікае тады, калі робіцца спроба звязаць па сугучнасці тую ці іншую назву са зразумелым словам і, зыходзячы з апошняга, растлумачыць сэнс гэтай назвы. Адсюль узнікаюць легенды паданні, звязаныя з імі, хоць у сапраўднасці нічога падобнага не было.

Людзі звычайна выбіралі такія назвы, якія выражалі самыя важныя, істотныя прыкметы і дапамагалі лягчэй арыентавацца на мясцовасці. Калі, на першы погляд, можа здацца выпадковай тая або іншая з іх, трэба заўсёды памятаць, што яе з'яўленне народжана гістарычнымі абставінамі і адлюстроўвае сваю эпоху.

Калі паспрабаваць правесці аналіз назваў урочышчаў, населеных пунктаў і іншых месц раёна, то можна ўстанавіць, наколькі змяніўся ландшафт мясцовасці, выявіць месцазнаходжанне феадальных маёнткаў, прыкладна вызначыць час узнікнення той ці іншай вёскі, даведацца пра характар старажытных промыслаў.

Пры ўсёй разнастайнаоці назваў іх усё ж можна класіфікаваць па некалькіх тыпах.

Да першага тыпу можна аднесці назвы, характарызуючыя прыродныя ўмовы мясцовасці. Найбольш распаўсюджаны пасяленні, якія маюць назвы, звязаныя з назвамі раслін. Сярод іх вёскі Белы Лясок, Ясень, Каштанаўка, Мурава (сухадольная сенажаць з добрай травой), Парасляны (ад слова „парасля" - чысты рэдкаваты сасновы лес), Чахец (у мінулым чахча - рэдкі пралесак з крывых сасонак на пясчаных узгорках), Бярэзніца, Сасноўка, Паддубна і іншыя.

Вёска Загор'е характарызуе рэльеф мясцовасці і знаходзіцца за гарой ці невялічкім пагоркам. Блізкая да гэтага віду назва вёскі Кацёлкі (ад слова „ кацёл" - упадзіна, паніжанае месца). Вёска Шубічы атрымала сваю назву ад дзірваністага пласту на дрыгве - так званай шубы).

Як хто, а жыхары Пружаншчыны добра ведаюць, што вада, якую яны п'юць, перанасычана жалезам. А раней, калі балоты вакол былі яшчэ не асушаны, то там часта можна было знайсці балотную руду, з якой у старажытнасці выплаўлялася жалеза. Гэтыя месцы называлі руднямі, ці Руднікамі. Такіх назваў многа на Беларусі, ёсць яна і на Пружаншчыне. Але гэта ўжо назва другога тыпу, які характарызуе эканамічныя з'явы. Гэта найбольш пашыраны тып. З гаспадарчай дзейнасцю чалавека, з яго вытворчымі навыкамі звязаны і іншыя назвы вёсак. Праўда, яны ўзніклі значна пазней Руднікаў, відаць ужо ў эпоху феадалізму. Найперш - гэта вёска Клепачы, паселішча майстроў, якія выраблялі адмысловыя дошчачкі-клёпкі для розных бандарных вырабаў.

Вёска Кавалі, думаю, не патрабуе тлумачэння, а назву Скорцы вёска атрымала ад роду заняткаў яе жыхароў - скарнякоў.

У XVII-XIX отагоддзях на Беларусі працавалі шкляныя прадпрыемствы, інакш гуты. Адна з вёсак Пружанскага раёна захавала і такую назву. На былой Гуце працавала ў пачатку нашага стагоддзя каля 200 рабочых, якія выраблялі аптэкарскі і хімічны посуд і іншыя шкляныя вырабы.

Недалёка ад райцэнтра знаходзіцца вёска Агароднікі. Такая назва ўзнікла не раней XVI стагоддзя ад назвы сацыяльнай групы людзей - збяднелых сялян-агароднікаў, якія атрымлівалі ад феадала толькі агарод і павінны былі працаваць у яго, пасяліўшыся недалёка ад панскага двара.

Назвы Паперня, Млынок - так - сама ўказваюць на прадпрыемствы, якія там калісьці размяшчаліся.

Назваў тыпу, які характарызуе само пасяленне, не так многа. Да яго належыць Слабудка (ад старажытнага беларускага „слабада" - пасяленне, якое карысталася свабодай, павіннаснымі льготамі), Такая ж па зместу назва Стараволя (ад слова „воля").

Пра свой знешні воблік ці воблік той мясцовасці ў мінулым гавораць нам назвы вёсак Круглае, Доўгае, Мокрае, Краснае, Вежнае, Варотнае.

Па назвах некаторых вёсак можна вызначыць і іх адносны ўзрост. Напрыклад, Зарэчча ўзнікла пазней Шарашова, бо менавіта адносна яго гэтая вёска знаходзіцца за ракой, і такую назву маглі даць толькі жыхары Шарашова. Тое ж самае датычыць і вёсак Забалоцце, Паддубна, Загор'е. Ёсць і назвы вёсак, па якіх іх узрост можна вызначыць дакладна. Вось вёска Плябанцы не магла ўзнікнуць раней 1522 года, па-колькі паходзіць ад слова „плябанія" - адміністрацыйнага цэнтра прыходскага касцёла. А першы касцёл у Пружанах быў пабудаваны ў 1522 годзе. Тады ж узнікла і плябанія.

Аб сваім узросце таксама гавораць назвы вёсак Стараволя, Навасёлкі. А вескі Сярэдняе, Блізная, Глыбокі Кут гавораць аб сваім месцазнаходжанні адносна больш буйных і старажытных населеных пунктаў.

Назва вёскі Плянта азначае не што іншае, як, мяжу. Назва Падалессе гаворыць аб сваім знаходжанні каля балота (алёсу, нізкага лугу).

Значную групу (каля 11,5 працэнта ад усіх) складаюць назвы, звязаныя з прозвішчамі людзей. Сярод іх - Якавічы, Лінова, Лыскава, Бакуны, Шакуны, Пацынічы. Тут трэба памятаць, што не толькі вёскам даваліся назвы па прозвішчах, але і наадварот, многія прозвішчы паходзяць ад назвы вёсак, мястэчак, гарадоў (Шарашова - Шарашовец, Шарашэўскі). Не заўсёды можна ўстанавіць, што было першым - прозвішча ці назва вёскі: Труханавічы ад прозвішча Труханoвіч (Трухан ад імя Трафім), Шакун і Шакуны, Горбачы в.Горбачы і г.д.

Назвы вёсак на -ін, -на, -ова, атрымаліся ад імён і прозвішча землеўладальнікаў - Юзэфін, Шарашова, Шчарчова, Хомна (Фама). А вёскі Зеляневічы, Юндзілы, Калазубы, Харава, Нямковічы, Байкі і г.д. атрымалі такую назву па прозвішчу, якое пераважае (ці пераважала) у гэтым пасяленні.

Назва Каралін гаворыць, што ў мінулым гэта паселішча належала дзяржаве (каралю). А магло стаць, што яно утварылася ад жаночага імя - Караліна.

Нязначную частку назваў (каля працэнта) складае група, звязаная з культавымі рэлігійнымі абрадамі. Дзіўная на першы погляд назва Галасяціна ўзнікла таму, што тут жылі галасятнікі, людзі, якія па-найму галасілі, аплаквалі памёрлых.

І апошнюю, даволі значную групу складаюць назвы не славянскага паходжання. Сярод іх вёска Кушлі атрымала назву ад слова балтскага паходжання „kusteti", што азначае шаптаць, шаптуны і сведчыць, што ўжо ў далёкім мінулым былі на Пружаншчыне свае „магі", „калдуны".

Шані - таксама звязаны з балтскім словам „senai", што на беларускай мове азначае "сюды, па гэты бок".

Вёска Чабахі мае назву цюрскага паходжання з сэнсавым значэннем „курэц, трубачнік". Цяжэй расшыфроўваецца назва вёскі Манцы. Магчыма, што гэта азначае слова „маніць", „заманьваць", а магчыма, яно балтскага ці старажытнапрускага паходжання з сэнсавым значэннем „возера". На чалавека -ляўшу часам кажуць: ударыў з "манькі". Вёска Жадзены паходзіць ад беларускай і літоўскай асновы жад, zadas - жадаць (жаданы госць і г.д.).

Абруб - гэта назва-тэрмін, які азначае астатак зямлі пасля таго, як выдзеліліся спадчыннікі.

Такую ж блізкую па характару назву мае вёска Обеч. Першапачаткова яна гучала як „обчэ" -абшчак, агульны сельскі выган, ці якое-небудзь іншае поле агульнага карыстання. Пры далейшай трансфармацыі яно набыло форму „обчае - обче-обеч".

Вёска Куплін атрымала сваю назву ад купленага ўчастка, зямлі, лесу ці яшчэ чаго-небудзь, што можна было там купіць.

Цікавую з'яву можна назіраць пры ўтварэнні назваў Аранава і Аранчыцы. Першае ўтворана ад беларускага слова „араць" або рускага „орь", ад якога ўжо ўтварылася прозвішча „Аранскі". Землі Аранскага ўпершыню ўпамінаюцца на Пружаншчыне ў „Рэвізіі Кобрынскай эканоміі" 1563 г. Гэта прозвішча і паслужыла асновай спачатку для в.Аранава, а затым і Аранчыц.

У апошнія гады назіраецца ўзмоцненае жаданне прыстасаваць беларускія назвы да рускай мовы, што не зусім спрыяе захаванню той першапачатковай інфармацыі, дайшоўшай да нас праз вякі. Нашчасце, вёсак Пружаншчыны гэта з'ява амаль не закранула. Але Шарашоў мы ўжо даўно пішам і называем як Шарашова. На Куплін цяпер часта кажуць Купліно.

ЯК МЫ ПЕРАКАНАЛІСЯ, старыя назвы вельмі многа могуць расказаць, дапамагчы ў выяўленні першапачатковага характару таго ці іншага пасялення, вызначыць яго далейшыя шляхі развіцця. Таму зберагчы іх - наш абавязак перад будучымі пакаленнямі.


Сядзіба Карпінскіх

## КРИМИНАЛЬНАЯ ХРОНИКА

С 1 февраля по13 февраля отделом Пружанского РОВД привлечено к административной ответственности за пьянство в общественных местах - 46 человек, за пьянство на рабочих местах - 21 человек.

В лесных массивах не перестают «гнать» самогонку. 10 февраля в лесном массиве возле деревни Гута были задержаны гражданин М. (частный предприниматель из г. Гродно) и гражданин Ч., которые на броваре изготавливали самогон. Данный бровар уничтожен, 600 литров браги вылито. Этим же днём уничтожены мини-заводы по выпуску самогона в лесном массиве возле д.Груск и около д.Вильяно, и уничтожено по 2 тонны браги на каждом.

## ГАИ СООБЩАЕТ:

За текущий год (с 1 января по 13 февраля) совершено 15 дорожно-транспортных происшествий с материальным ущербом. В феврале-месяце (с 1 по 13) задержаны 14 человек, которые управляли транспортом в состоянии алкогольного опьянения.

4 февраля в 19 ч. 40 мин. гражданин Д., находясь в состоянии алкогольного опьянения, управляя «Фольксвагеном», совершил наезд на шедшую в попутном направлении гражданку Н. После чего она доставлена в Пружанское РТМО с травмой головы. Ведётся следствие.

## ВІНШАВАННІ



*Драгія Алена і Андрэй Князевы*
*Віншуем Вас са шлюбам!*
*Мы, маладым у іх вяселле*
*Годоў жадаем маладых,*
*Каб іх сям'я на мель не села,*
*І каб адчай не біў пад дых.*
*Каб, як кахаюць, так кахалі,*
*І вернасць свята бераглі.*
*І каб ліхой бяды не зналі,*
*І каб хацелі і маглі...*
*Вашы сябры*

*Дорогая*
*Середа Ольга Александровна!*
*Все танцоры «Усмешки»,*
*а также их родители,*
*поздравляют Вас*
*с Днём рождения.*
*Желаем Вам счастливых встреч*
*и радостных событий,*
*удивительных и ярких*
*выступлений на концертах.*
*Будьте счастливы, любимы,*
*жизнерадостны, очаровательны,*
*и пусть Вам сопутствует удача!*

В жизни по-разному можно жить,
В горе можно и в радости
Вовремя есть. Вовремя пить.
Вовремя делать гадости.
А можно так, на рассвете встать
И, помышляя о чуде,
Рукой обожженною солнце достать
И подарить его людям.





*Дорогой и любимый Андрей Сёмка,*
*Поздравляем тебя с Днём рождения!*
Желаем счастья много-много,
Хотим, чтоб в жизни молодой
Твоя широкая дорога
Не стала узкою тропой.
Ещё любви тебе желаем-
Огромной, чистой, как слеза.
Хотим , чтоб вечно улыбались
Твои счастливые глаза.
*Твои близкие и родные*

**Магазін «Аўтазапчасткі»**

За наяўны і беznаяўны разлік 3 МАГАЗІНА І ПАД ЗАКАЗ
**АЎТАЗАПЧАСТКІ**
да расійскіх легкавых і грузавых аўтамабіляў

МАСЛА, ТАСОЛ
МУВІЛЬ
РАСТВАРАЛЬНІК
СТУЖКА КЛЕЮЧАЯ

ЁСЦЬ У ПРОДАЖЫ:
НАЖДАЧНАЯ папера
АНТЫКАРАЗІЙНАЕ пакрыццё
ШПАКЛЁЎКА, ГРУНТОЎКА
ТАРМАЗНАЯ ВАДКАСЦЬ
ЗМАЗКІ (метол, графітная, шрус)

г.Пружаны, вул. Кастрычніцкая 104. Тэл 2-32-70.

**ПРУЖАНСКИЙ ЦТР**
реализует:
ЛЕС КРУГЛЯК,
ДОСКУ 25, 32, 40, 50 ММ;
ЗАДВИЖКИ ЧУГУННЫЕ D 100
**Тел: 2-03-20, 7-14-05**

## КРЫША ПОЕХАЛА!

Адвокат сын приходит к отцу, старому адвокату.

- Папа, поздравь меня. Я выиграл дело которое ты не мог выиграть в течение 15 лет.

- Прими мои соболезнования, сын.

- ?

- Ты только что лишил свою семью источника дохода, который позволял содержать её все эти 15 лет

***

- Мне кажется, жена хочет со мной развестись.

- Почему ты так думаешь?

- Вчера она привела домой свою подругу!

- Ну и что?

- Ты не представляешь, какая она красавица!

***

- Пить будешь?

- Не-е-е...

- А что так?

- Да у меня язва...

- Какая язва, где? В кишечнике, желудке?

- В семье!

***

Два автомобилиста:

- Вчера купил себе новый антирадар.

- И что?

- А он за триста метров до гаишника начинает канючить: доставай деньги, доставай деньги.

***

- А я вчера девушку в зоопарк водил!

- Ну и как?

- Не взяли!

***

Мадам, Вы так прекрасны в этом туалете!

- Хам, закройте дверь!

***

Сидят Пушкин, Лермонтов и Маяковский, не могут решить, кому первому наливать. Решили так: кто стих рассказывает - тот и пьет. Пушкин встает и говорит:

- Я, ребята, пить люблю - наливайте мне одну.

Налили, выпил. Следом встает Лермонтов:

- Был, ребята, я в Москве - наливайте сразу две!

Налили две. Встает Маяковский и говорит:

- Вы, ребята, молодцы - остальное все мое!

***

Жена разговаривает по телефону, потом кладет трубку. Муж (читая газету):

- Это кто был?

- Да мама. Она, по-моему, уже наполовину сумасшедшая.

- А-а-а... Значит, получше стало

***

В продуктовом магазине прямо напротив весов находится зеркало. Один продавец спрашивает другого:

- Послушай, зачем тебе на стене зеркало, ты ведь не женщина...

- Конечно, но покупательницы - все сплошь женщины! И станут они смотреть на весы, если есть возможность лишний раз поправить прическу?

***

-Куда вы ходите по грибы?

-К соседям на балкон.

-Они их там выращивают?

-Нет, сушат.

***

-Что это в доме не видно твоей жены?

-Она на аукционе.

-Ого! И сколько же ты думаешь за нее получить?

***

Муж пришел домой. Жена посылает его в магазин за продуктами.

-Это не мужское дело.

-Тогда делай мужское дело!

-Шуток не понимаешь!.. Давай сумку!!!

***

Ссорятся два лысых человека:

-А ты лысее меня!

-Но почему? Ни у тебя, ни у меня на голове нм единого волоса!

-Но у тебя голова больше моей!

***

Городская жительница ехала по сельской дороге и увидела двух связистов, которые карабкались на телефонные столбы.

- Вот идиоты! - презрительно фыркнула она, повернувшись к своей спутнице. - Они, наверное, подумали, что я никогда не управляла автомобилем!

***

В трамвае женщина передает парнишке билетик чтобы тот прокомпостировал, смотрит, а он уже дырявый.

- Да ведь он же уже прокомпостирован!

- Ничего! Там еще место есть!

**Аэробіка** для ўсіх

Маладых жанчын і дзяўчат пры ГА "Яравіт" у 18.30 па аўторках і чацвяргах

На адрасе: г.Пружаны, вул.Завадская,16

**Даведкі па тэл: 2-00-40**

**ПРОДАЕМ**
САХАР
МУКУ В/С
И РЖАНУЮ

Телефон: 7-21-36
С $8^{30}$ до $17^{30}$
Св. о регистрации №05950 от 31.07.2000

**Куплю**
БУЛЬБУ
БУРАКІ сталовыя
МОРКВУ

Даведкі па тэл.: 7-13-48
($9^{00}$-$17^{00}$, акрамя выхадных)

# АБ'ЯВЫ

## АВТОСАЛОН

Продам:

Грузовой автомобиль «Баркас» 1985г. в.бензин. Тел. 63-3-45

***

Мазда - 626, 2, ОБ, 86 г. в. или обменяю на более дешёвое авто + доплата. Тел. 2-02-82

***

Лянча-Дедра 1990 г.в., 1.6БАБС, полный электропакет, 5 КПП, цвет - серый металлик, эл./люк, климат-контроль, центральный замок. Тел. 2-40-69

***

AUDI -100 81г.в. 650 у.а.,31Д-100 у.а. Тэл. 79-1-76

***

Ауди 100, 89 г.в. 2,0 новая панель, идеальное состояние, БМВ 316, 89 г.в, г/у, диски серый металик, Мазда 323, 94 г.в. хатчбэк. Тел. 2-47-40 Вадим.

***

Мотоцикл "ЯВА" , 350-638, 86 г.в. Тел. 2-29-09, 5-82-46, вечером.

***

ВАЗ 2101, пробег 89 тыс. к/м в хорошем состоянии. Обращаться по адресу: ул. Красноармейская, 51

***

НИСАН - САННИ, 1,7 Д, 86 г.в. Тел. 63-3-59

***

AUDI - 80, 83г. Тел. 7-24-06.

***

W-JETTA- 1986 г.-1,6 D, 1 месяц в РБ - красный. Люк, фаркоп.1700 у.е. Тел. 6-34-34.

***

Москвич- 2140 на запчасти, двигатель, задний мост, каробка передач. Все в хорошем состоянии. Тел. 59-1-90

***

W-Jetta II, 1987 г.в.,1,6Д, 1500 у.а. Тэл.2-07-59

***

ВАЗ-2105, 1990 г. 850$. Тел.2-15-56

***

AUDI -100 81г.в. 650у.а., 3ІД - 100 у.а. Тэл. 79-1-76.

***

ЗАЗ - 968. Тел. 2-34-73, после $18^{00}$

## НЕДВИЖИМОСТЬ

Дом шлакобетонный в Б.Яковичичах № 76. Тел. 2-52-76.

***

Дача в Залесье. Тел. 6-34-34

***

Квартира 1-комнатная без удобств. Тел. 2-04-31

***

1-комнатную квартиру по ул. Октябрьская, 54, 2-й этаж 5-ти этажного панельного дома, 33/17/6, окна - во двор, балкон, 3800 у.е. Тел. 2-34-86

***

1- комнатная квартира деревянный дом, центр, вода, телефон, туалет, сарай, огород. Тел. 2-47-68

***

Гараж по у. Кобринская. Тел. 2-34-73, после $18^{00}$

***

2 - х комнатная квартира, гараж дорого. Тел. 7-10-04

***

Дом в деревне с хозпостройками. Тел. 2-24-91.

***

3 -х комнатную квартира, недорого. Тел. 2-43-96.

***

Гараж недостроенный по ул.Макаренко, недорого. Тэл. 2-45-35.

## ПРОДАМ

Магнитофон - приставку «Радиотехника - 7301С», в хорошем состоянии, недорого. Тел. 48-1-24

***

Компьютер Р/ II мультимедиа. Тел. 2-05-57

***

Вид-фон "Sharp" б/у, эл. плита "Ariston" белая, пульт (универс) TV, SAT, CD, Video.ТЮНер аналоговый б/У. Тел. 2-47-40 (Вадим)

***

Телевизор цветной б\у - 35 у.е., телефонный аппарат США б/у - 10 у.е. Тел. 7-10-04

***

Авто магнитолу Гродно. Тел. 2-34-73, после $18^{00}$

***

Телевизор ч/б, вязальную машину «Нева» - 5 всё б/у. Тел. 7-11-23

***

Бушлат с утеплёнными штанами р. 50-4, сапоги армейские р. 41. Тел.48-1-24, после 18

***

Мягкий уголок Тел.2-07-59

***

Телевизор «Горизонт» 51ТЦ431 И, новую 8-ми битную игровую приставку, стиральную машину-автомат б/у. Тел. 7-14-17

***

Выборный баян «Рубин 5», цена договорная. Тел. 2-30-93 (после $18^{00}$)

***

Кобылу 3 года, 350 у.е. Тел. 61-4-01

***

Покрышки 175/70-13, 4 шт Тел. 6-34-34.

***

Запчасти на Форд- Эскорт, 89г.в. Тэл. 2-06-71.

***

Стиральную машину-автомат, пылесос, всё б/у Тел. 7-18-05.

***

Запчасти на Форд-Эскорт, 89 г.в. Тел. 63-2-93, после $18^{00}$

***

Кирпич красный, перемычки: Б-22; Б-25; БУ-22; БУ-24. Блоки: ФБС-24-4-6 -5 шт; ФБС-24-5-6, б/у-5 шт. Тэл.2-05-47.

***

Электронную записную книжку Citizen. Тел.2-12-93

## КУПЛЮ

Шкуры телячьи и коровьи (солёные или свежие).Тел. 7-24-42, с $18^{00}$ до $21^{00}$

***

Шины грузовые, тракторные. Запчасти к МТЗ. Тел.7-21-36 с $8^{30}$ до $17^{30}$

***

Дерево обробатывающий станок 220 В. Тел. 42-3-15

## СНИМУ

Гараж в районе ул. Заводской, Октябрьской, Строительной. Тел. 7-19- 30.

***

Молодая семья снимет квартиру в г.Пружаны. Тел. 2-47-86

***

Квартиру с удобствами. Тел. 2-08-28, после $18^{00}$

Два дома, 20 сотак земли - на однокомнатную с удобствами квартиру с доплатой. Тел. 7-13-40.

## МЕНЯЮ

Ищу специалиста по ремонту и покрытию эмалью ванны. Тел. 2-42-36.

## КУПОН ДЛЯ БЯСПЛАТНЫХ ПРЫВАТНЫХ АБ'ЯВАЎ

(сапраўдны на працягу двух тыдняў пасля выхаду газеты)

*прадам
*куплю
*мяняю
*паслугі
*рознае
(патрэбнае абвесці)

Запоўніце купон разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі: 225140, г.Пружаны, Завадская,16, або перадайце у кіёскі "Саюздруку"

Звесткі не для друку ____________________
Прозвішча імя і імя па бацьку

____________________
Хатні адрас і тэлефон

**Голас Пружаны**

Рэг.№1323 ад 16.07.1999 г.
Заснавальнік і рэдактар Язэп Машкала

Адрас рэдакцыі:
225140, г.Пружаны, вул.Завадская, 16
Телефон: (01632) 2-00-40
E-mail: golasp@irex.minsk.by

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнаць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.*

*Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.*

*Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.*

*Падпісана да друку 15 лютага 2001 года.*

*Час падпісання 18:00 (типа)*

*Надрукавана ў ГАУПП "Слонімская друкарня", г.Слонім, вул. Хлюпіна, 16.*

*Наклад 1200 экз. Заказ № 855*